# Наша Свабода

№26(253) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 САКАВІКА 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


# Жаночыя жаданні

*– Ці атрымоўвалі вы калі-небудзь той падарунак на 8-га сакавіка, пра які марылі? Якія рысы ў характары беларускіх мужчын вам падабаюцца найбольш? Ці могуць беларускія мужчыны круглы год быць такімі, якімі бываюць 8-га сакавіка?*



**Людміла, майстар:**
– Не, ніколі не атрымоўвала. Не падабаецца ў мужчынах – беднасць, а круглы год яны ніяк не могуць быць такімі ж добрымі, як 8-га сакавіка.



**Алена Мікалаеўна, на пенсіі:**
– Так, атрымоўвала я такі падарунак, але што – не скажу. Нашы мужчыны – шчырыя і круглы год здольныя быць самымі лепшымі, такімі, як у сакавіку.



**Маргарыта, хатняя гаспадыня:**
– Атрымоўвала. Якая розніца, што гэта было? Мне падабаецца, калі мужчыны моцныя. Калі пажадаюць быць круглы год такімі, як восьмага, то могуць, бо яны могуць усё, калі толькі самі пажадаюць. І справа тут зусім не ў грашах, а ў сюрпрызах. Нашы мужчыны значна лепшыя, чым жадаюць сябе прадставіць.



**Яна, студэнтка:**
– Так, жадала атрымаць кветкі і атрымала іх. Вялікі букет кветак. Я думаю, што нашы мужчыны здольныя на ўсё, і нават круглы год быць класнымі, але я пакуль што такіх не сустракала.

*Заканчэнне на стар. 3*

*Дарагія, любімыя жанчыны!*
*Журналісты НАШАЙ СВАБОДЫ віншуюць усіх Вас са святам, з надыходам вясны. Жадаем Вам быць заўсёды маладымі і найпрыгажэйшымі, чароўнымі і жаданымі. Няхай Вашыя мужчыны штодзень ствараюць Вам пачуццё вясновага свята.*
*Шчасця Вам і ўдачы!*

## Прэзідэнцкая кампанія скончылася не для ўсіх

«Для назіральнікаў прэзідэнцкія выбары працягваюцца», – такую заяву 4 сакавіка на прэзентацыі зборніка артыкулаў «Выбары прэзідэнта РБ – 2001. Факты і каментары» зрабіў прэзідэнт праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі. Гаворка ідзе пра праслед удзельнікаў незалежнага назірання, які працягваецца дагэтуль. У часе самой кампаніі звыш 100 назіральнікаў папросту выставілі з выбарчых участкаў і прыцягнулі да адміністрацыйнай ды крымінальнай адказнасці. У звязку з гэтым А. Бяляцкі згадаў жыхарку Рэчыцы Наталлю Брэль, крымінальная справа супраць якой за пасылку сатырычнага зместу на адрас А.Лукашэнкі нядаўна перададзеная ў суд; ідзе судовы разгляд крымінальнай справы ў адносінах да пяці маладых людзей з Шклова, якія ў часе агітацыйнай кампаніі правялі сатырычны перформанс з карыкатурнай выявай А.Лукашэнкі.

Акрэдытацыя назіральнікаў летась пачалася адразу пасля ўтварэння выбарчых участкаў. І вось тут пачаліся праблемы. На пачатак датэрмінова галасавання акрэдытаваных былі 12 тысячаў наглядальнікаў, а яшчэ каля 4 тысяч чалавек «парушылі першапачатковае жаданне назіраць, бо з самага пачатку ўлада пачала праводзіць палітыку запужвання, застрашвання назіральнікаў», сказаў старшыня ЦКС Мечыслаў Грыб. Ужо 8 верасня Цэнтрвыбаркам скасаваў рэгістрацыю прыкладна 2 500 назіральнікаў. У офісах спрэс вядіся праверкі, забіралася аргтэхніка, а 9 верасня – у дзень выбараў – адключылі тэлефонную і электронную сувязь.

*Заканчэнне на стар.3*

**Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478**

## Новая «Мужыцкая праўда»?

### *Гутарка карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ з галоўным рэдактарам забароненай газеты «ПАГОНЯ» Міколам Маркевічам*

***– Гарадскія ўлады не дазволілі, каб з'явілася новае выданне пад назвай «Газета Пагоня». Якія твае далейшыя дзеянні?***

– Я занёс дакументы на рэгістрацыю газеты «Мужыцкая праўда». Чаму «Мужыцкая праўда»? Бо я лічу, што тое, што адбываецца сёння, што робіць гэты ўрад, які паставіў на мэце знішчыць усё нацыянальнае, гэта абсалютна ідэнтычна тым часам, тым умовам, у якіх працаваў Кастусь Каліноўскі, калі выдаваў сваю «Мужыцкую праўду». Я мяркую, што гродзенскія чыноўнікі таксама яе забароняць. Так, як гэта зрабіў у свой час Мураўёў-вешальнік. Так, відавочна, будзе і гэтым разам. Спадзяюся, што ў нашых людзей тады расплюшчацца вочы на тое, што адбываецца сёння ў Беларусі. Я думаю, што нават адмоўны вынік – таксама вынік.

***– Калі не ўдасца зарэгістраваць іншую газету, што далей?***

– Я спадзяюся, што арганізацыі, якія займаюцца дапамогай журналістам, падтрымаюць нас у барацьбе. Бо, канечне, застаცца сам-насам з гэтым «катком», які зараз коціцца па Беларусі, – страшэнная справа. Я спадзяюся на журналісцкую салідарнасць і на беларускую салідарнасць увогуле. Хоць кантроль уладаў у нашым горадзе сёння татальны. Сёлета не далі дазволу ні на якое новае выданне. На жаль, ніводная партыйная арганізацыя, за выключэннем журналісцкіх, ніхто не адгукнуўся ў барацьбе за свабоду слова, за аднаўленне «Пагоні».

*Заканчэнне на стар.3*

**ВЕСТКІ**



### Дарожны вандалізм

Страты ад яго ў 2001 годзе склалі 180 мільёнаў рублёў, пры гэтым самая вялікая шкода нанесена на Міншчыне. Летась былі пашкоджаны ці скрадзены каля сотні сігнальных слупкоў і сметніц, паўсотні лавак і 283 дарожныя знакі. Было высветлена, што вінаватыя не аўтамабілісты, а жыхары прыдарожных паселішчаў. У гаспадарцы ўсё прыдасца.

### Чакаецца амністыя

МУС збіраецца звярнуцца да Палаты прадстаўнікоў з законапраектам аб правядзенні ў Беларусі чарговай амністыі. Прычына простая – у дзяржавы не стае сродкаў на ўтрыманне зняволеных. І самі яны на гэта зарабіць не могуць: цяпер у папраўча-працоўных установах працай забяспечаны толькі кожны пяты з турэмных «сядзельцаў».

### Яшчэ адзін шагалаўскі падарунак

Віцебскі музей Марка Шагала атрымаў чарговы падарунак у сваю калекцыю. Каля тысячы кніг і альбомаў па сучасным мастацтве перадаў сюды аматар шагалаўскай творчасці доктар медыцыны Хайнрых Мандэль. Дарэчы, некалькі гадоў таму ён жа падараваў Віцебску літаграфіі сусветна вядомага мастака. Адкрыццё музейнай бібліятэкі адбудзецца ў ліпені, калі ў Віцебску будуць святкавацца 115-ыя ўгодкі з дня нараджэння Марка Шагала.

### Падвойнае свята ў Полацку

Прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі выдаў распараджэнне стварыць арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і святкаванні 900-годдзя Еўфрасінні Полацкай. Узначальвае аргкамітэт віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын. Адзначэнне юбілею святой і асветніцы супадзе з 1140-годдзем Полацку, якое будуць святкаваць у гэтым старажытным беларускім горадзе 25 траўня.

### Нязменны Лучанок

На з'ездзе кампазітарскага саюзу, які прайшоў у канцы лютага – пачатку сакавіка, Ігар Лучанок ужо шосты раз запар пераабраны на пасаду старшыні Беларускага саюзу кампазітараў. На сённяшні дзень туды ўваходзяць 120 чалавек, прычым 14 з іх жывуць па-за межамі Беларусі.

### Выстава Бялыніцкага-Бірулі

З нагоды 130-х угодкаў Вітольда Бялыніцкага-Бірулі 4 сакавіка ў Мінску ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава ягоных твораў «Натхненне эцюду». А ў музеі мастака, што знаходзіцца ў Магілёве, тым часам праходзіць выстава яго сяброў і настаўнікаў.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»**

**1690**

ВЕСТКІ



## Смешнае і сур'ёзнае вакол еўра

Як паведамляюць брытанскія СМІ, ужо ў 2003 годзе Вялікабрытанія можа перайсці на еўра. Неўзабаве тутэйшы ўрад можа абвесціць аб правядзенні нацыянальнага рэферэндуму па гэтай праблеме. У Аўстрыі ж вакол еўра абмяркоўваюць зусім іншыя навіны: друкарня аўстрыйскага нацыянальнага банку надрукавала пэўную колькасць новай валюты з памылкай. На адваротным баку пяціеўравых купюр не было ніякага малюнку. Гэтыя купюры адразу сталі аб'ектам палявання калекцыянераў і разыходзяцца коштам, значна большым за намінал.

## Нагейкіна выйграла *Vasaloppet*

37-гадовая беларуская лыжніца Святлана Нагейкіна выйграла гонку на 90 кіламетраў, якая адбылася ў шведскім горадзе Мора. Марафон пад назвай *Vasaloppet* праводзіўся ўжо ў 78-ы раз. Як паведамляе БелаПАН, гэтая дыстанцыя – паўтор шляху, які ў 1522 годзе прайшлі два шведскія лыжнікі. Густаў Васа спрабаваў падняць сялянства на паўстанне супраць датчан, якія акупавалі краіну, але падтрымкі не атрымаў, і яму давялося ўцякаць. Аднак хуткім часам жыхары Мора змянілі сваю думку і паслалі да Васа двух найлепшых лыжнікаў. Яны дагналі яго каля мяжы з Нарвегіяй. Васа вярнуўся і ўзначаліў паўстанне. Шведы перамаглі і заваявалі незалежнасць.

## Рабаўнікоў не шукаюць

Пракуратура краіны адмовілася расследаваць акалічнасці абрабавання офісу Беларускага саюзу прадпрымальнікаў, падае радыё «Рацыя». Колькі тыдняў таму невядомыя трапілі ў сядзібу Саюзу і вынеслі адтуль аргтэхніку – у тым ліку два камп'ютэры з важнымі архівамі. Прэзідэнт Саюзу прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа лічыць, што праваахоўныя органы проста не хочуць займацца сваёй непасрэднай справай: «Насамрэч гэта азначае, што нашыя грамадскія арганізацыі неабароненыя, і «родная» міліцыя нават не робіць выгляду, што спрабуе іх нейкім чынам бараніць».

## Памяці Міхася Ткачова

**10 сакавіка а 12 гадзіне** ў мінскім **кінатэатры «Змена»** адбудзецца імпрэза з удзелам гісторыкаў, археолагаў і паказам дакументальных стужак «Ахоўваецца дзяржавай» (аўтар сцэнарыя Міхась Ткачоў) і «Радашковіцкія ростані».

**11 сакавіка а 18 гадзіне** *ў **Доме літаратара** – урачыстасць, прымеркаваная да 60-годдзя ад дня нараджэння М.Ткачова. Мяркуецца паказ фільма «Ахоўваецца дзяржавай» і выступленне гурту «Тутэйшая шляхта».*

## Папярэджанне «Нашай Ніве»

Пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовае папярэджанне газеце «Наша Ніва» за публікацыю матэрыялаў пра незарэгістраваную Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву.

Як заявіў БелаПАНу галоўны рэдактар газеты Андрэй Дынько, супрацоўнікі выдання здзіўлены вынесеным папярэджаннем – першым за два гады. «Калядняе пасланне ад імя айца Івана Спасюка, а не ад імя Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, было надрукавана пад рубрыкай «Лісты ў рэдакцыю». А пад рубрыкай «Дзе варта быць» была апублікаваная вельмі кароткая інфармацыя пра маючае адбыцца ў Курапатах калядняе богаслужэнне. З-за гэтых паведамленняў нас абвінавацілі ў распаўсюджванні інфармацыі ад імя незарэгістраванай арганізацыі», – сказаў А.Дынько.

Паводле яго слоў, рэдакцыя хутчэй за ўсё будзе звяртацца да юрыстаў Беларускай асацыяцыі журналістаў, каб з іх дапамогай абскардзіць папярэджанне. «Сёння вельмі цяжка пісаць у беларускай газеце, калі не зарэгістраваны большасць нацыянальных грамадскіх аб'яднанняў, пачынаючы ад Маладога Фронту і заканчваючы «Рэгіянальнай Беларуссю». У такой сітуацыі зусім не пісаць пра незарэгістраваныя арганізацыі мы не можам, а як пісаць пра такія арганізацыі, каб не парушаць закону, – зразумець цяжка», – сказаў Андрэй Дынько.

**Марат ГАРАВЫ**

## Шкода ад «Нафтану»

53 687 тон розных адкідаў сваіх вытворчасцяў выкінулі ў паветра летась навапалацкія прадпрыемствы.

Паводле звестак Навапалацкай гаррайінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, львіную долю ў гэтых аб'ёмах складаюць выкіды ВА «Нафтан». Яны перавысілі 40 тысяч тон і крыху выраслі ў параўнанні з 2000 годам. Спецыялісты звязваюць гэты факт з павелічэннем вытворчых магутнасцяў прадпрыемства.

Паводле звестак мясцовай экалагічнай інспекцыі, за мінулы год адзначана адно надзвычайнае здарэнне. Яно таксама звязана з дзейнасцю ВА «Нафтан». У лютым 2001 году адбылося скіданне нафтапрадуктаў у раку Ушачу. У выніку на вытворчае аб'яднанне наклалі штрафныя санкцыі, а 4 супрацоўнікаў прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.

Разам з тым, паводле звестак інспекцыі, асноўныя забруджвальнікі паветра ў Наваполацку – не прамысловыя прадпрыемствы, а аўтамабільны транспарт. Гэта тлумачыцца аддаленасцю прамысловай зоны ад гораду, тым, што Наваполацк і прамвузел раздзеленыя санітарна-ахоўнай лясной зонай, і зніжэннем у параўнанні з савецкімі часамі аб'ёмаў прамысловай вытворчасці.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

## У лепшае мала хто верыць

54% кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў Беларусі лічаць, што ў найбліжэйшыя два-тры месяцы эканамічнае становішча іх прадпрыемстваў не зменіцца. Каля трэці (30%) чакаюць пагаршэння сітуацыі, і толькі 13% – паляпшэння. 3% рэспандэнтаў не выказалі свайго меркавання. Гэта вынікі анкетнага апытання, якое правялі ў студзені вучоныя Навукова-даследчага эканамічнага інстытуту Міністэрства эканомікі Беларусі. Удзел у ім бралі 252 кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў краіны.

У ліку асноўных прычын, што стрымліваюць вытворчасць, рэспандэнты назвалі недахоп абаротных сродкаў – 83%, неплацяжы спажыўцоў – 75%, нізкі платаздольны попыт – 72%, падатковую палітыку дзяржавы – 56%, а таксама высокія цэны на сыравіну і матэрыялы – 54%. Каля трэці (35%) кіраўнікоў-прамыслоўцаў адзначылі крэдытна-грашовую палітыку дзяржавы, 12% – недахоп абсталявання, 11% – валютны курс і 9% – недахоп кваліфікаваных кадраў.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ**

# Гродна – вандроўка ў мінуўшчыну









Фота Ул. ШЛАПАКА



Адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі – летапісная Гародня – праз вякі захаваў сваю непаўторную архітэктурную спадчыну. На прынёманскіх вулках, у касцёлах і цэрквах, у палацах і былых раменіцкіх дамах гарманічна спалучаюцца барока і рэнесанс, класіцызм і мадэрн. Многія са старых будынкаў, калі б маглі гаварыць, расказалі б беларусам 21-га стагоддзя пра князя Вітаўта, Стэфана Баторыя, Казіміра Лышчынскага, Карла XII, Аляксандра Меншыкава, Валерыя Урублеўскага, Кастуся Каліноўскага, Яўхіма Карскага, Вацлава Ластоўскага ды яшчэ пра шмат каго са слынных асобаў. Падарожжа ў Гродна, шпацыр каля старадаўняй Каложы ці каля каралеўскага палацу – гэта сустрэча з гісторыяй сам-насам, незабыўныя хвіліны падарожжа ў часе.

**Уладзімір ШЛАПАК**

# Новая «Мужыцкая праўда»?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

***– Але адбыўся «круглы стол», прысвечаны вашаму становішчу, які арганізавалі БАЖ і праваабарончыя арганізацыі.***

– Мы ў «Пагоні» даўно вызначылі тактыку змагання. Але мы ўдзячны людзям, якія прыехалі з Мінску, каб тут абмеркаваць нашыя праблемы. І мы спадзяёмся, што з гэтых размоваў штосьці ў рэшце рэшт атрымаецца. Што будзе паднята інфармацыйная хваля ў нашую падтрымку.

***– Пяць гадоў таму, калі рэдакцыю «Пагоні» высялілі з памяшкання на вул. Савецкай, БНФ актыўна пікетаваў насупраць аблвыканкаму. Цяпер стала вядома, што БНФ знойку падаў заяўку на пікеты ў абарону «Пагоні». Ці ёсць шанцы, што ўлады дазволяць пікетаваць?***

– Я ведаю толькі адно, што правоў не даюць, правы бяруць. Цалкам магчыма, што ўлада не дазволіць ніякіх праяваў пратэсту. Але гэта не значыць, што людзі не павінны пратэставаць супраць незаконных рашэнняў. Канстытуцыя, людская мараль дае кожнаму з нас права пратэставаць супраць беззаконня, супраць гвалту.


Фота IREX/ProMedia

***– Можна ўзгадаць пікет, праведзены ў лістападзе на вул. Савецкай у Гродне. У падтрымку «Пагоні». На які не прасілі дазволу. Чым для цябе асабіста гэта скончылася?***

– Скончылася ўсё з лікам адзін–адзін. Сваю пазіцыю я асабіста выказаў, разам з сябрамі, якія выйшлі са мной. Гэта атрымала розгалас. Тое, што яны пачалі рэпрэсаваць мяне, маю сям'ю, сведчыць пра амаральнасць гэтай улады. Іхнія дзеянні нанеслі шкоду майму прыватнаму жыццю. Штраф далі мне ў 500 тысячаў рублёў і нядаўна апісалі на такую суму маёмасць. І я чакаю, калі судовыя выканаўцы прыйдуць яе забіраць. Чаму дагэтуль не прыйшлі – не ведаю. Думаю, што не атрымалі канчатковай каманды.

***– Судовыя выканаўцы прыйшлі да цябе, як толькі ты вярнуўся дахаты з паездкі ў Штаты. Табе гэтая паездка дапамагла паінфармаваць замежнікаў пра тое, што адбываецца вакол «Пагоні», і выклікаць зацікаўленне?***

– Паездка ў Злучаныя Штаты разам з групай рэдактараў дала вельмі шмат. І самае галоўнае, я зрабіў для сябе дзве высновы: людзі, якія жывуць у Амерыцы, якія ў свой час дасягнулі свабоды, незалежнасці, якія стварылі сабе дзяржаву з вялікімі дэмакратычнымі каштоўнасцямі, з правамі чалавека, якія шануюцца, – гэтыя людзі заўсёды будуць саюзнікамі ў нашым змаганні за свабоду і дэмакратыю. Аднак я зрабіў яшчэ адну выснову. Так, ёсць людзі, якія могуць дапамагаць нам. Але толькі пры ўмове, калі ў Беларусі будзе асэнсаваны рух да агульначалавечых каштоўнасцяў. Калі ў нацыі не стае волі да змагання, гэтая нацыя не ўтрымаецца і будзе падзеленая паміж больш моцнымі суседзямі. Я вельмі спадзяюся, што ў беларускай нацыі хопіць моцы для змагання з сіламі зла, якія ў нас пануюць.

***– Крымінальная справа аб паклёпе на прэзідэнта супраць цябе і Паўла Мажэйкі ідзе да суду. Вашыя дзеянні сёння?***

– Тэрмін папярэдняга следства па крымінальнай справе, узбуджанай супраць нас, заканчваецца 12 сакавіка. Я не ведаю, ці будзе працягнута следства. Аднак ёсць усе падставы для гэтага. Я заявіў тры хадайніцтвы. Самае галоўнае звязана з тым, што я папрасіў прызначыць тэхнічную экспертызу. Каб выкрыць фальшыўку, якую зрабілі ў КДБ. Я маю на ўвазе, што ў якасці доказаў распаўсюджвання нібыта крамольных нумароў 36 і 37 газеты «Пагоня» за мінулы год прад'яўлены раздрукоўкі з камп'ютэра. І гэтыя матэрыялы ніколі не былі ў інтэрнэце. А значыцца, і не распаўсюджваліся, паколькі тыраж самой газеты быў арыштаваны ў друкарні. А іншых законных падставаў для нашага пераследу папросту няма. Каб даказаць, што матэрыялы нумара распаўсюджваліся, былі апытаны 15 супрацоўнікаў друкарні. Пыталі: ці чыталі, ці бачылі? Ніхто з апытаных не пацвердзіў гэтага. Справа фактычна і замкнулася на гэтак званай інтэрнэт-версіі.

**Гутарыў Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Беларускі пракурор за кратамі ў Маскве

*Віцэ-прэзідэнт расійскай нафтахімічнай кампаніі «СИБУР» і былы супрацоўнік беларускай пракуратуры Яўген Кошчыц застанецца пад вартай надоўга.*

Як перадае агенцтва *РИА «Новости»*, учора Маскоўскі гарадскі суд адхіліў хадайніцтва адвакатаў Яўгена Кошчыца і прэзідэнта «*СИБУР*» Якава Галдоўскага аб змяненні меры стрымання. Суддзі вырашылі, што абодвум лепш заставацца за кратамі.

«*СИБУР*», або «*Сибирско-Уральская нефтегазохимическая компания*», – дачынная структура канцэрну «Газпрам». Ёй належаць Омскі, Яраслаўскі і Волжскі шынныя заводы – гэта болей за 50% усёй вытворчасці шынаў у Расіі, іншыя хімічныя кампаніі у Расіі і за мяжой.

На пачатку гэтага году «Газпрам» абвінаваціў «дачку» ў тым, што яна пазбаўляецца кантролю з боку «бацькі». А пракуратура Расіі паведаміла, што расследуе дзеянні групы асобаў па зводзе актываў «Газпраму» на агульную суму 2,6 мільярда рублёў (больш за 85 мільёнаў даляраў).

9 студзеня пракуратура Расіі затрымала прэзідэнта «*СИБУР*» Якава Галдоўскага, віцэ-прэзідэнта па прававых пытаннях Яўгена Кошчыца і сябра савету дырэктараў кампаніі Вячаслава Шарамета. В.Шарамета хуткім часам выпусцілі, а астатніх двух пакінулі адседжваць. 19 студзеня ім прад'явілі афіцыйныя абвінавачанні ва злоўжываннях.

Расійская газета «Коммерсант» са спасылкай на неназваныя крыніцы паведаміла, што па выніках вобшукаў у офісе «*СИБУР*» у Я.Кошчыца ўзнікнуць сур'ёзныя праблемы – «матэрыялаў, што ўзялі на яго, хопіць на 25 гадоў адседкі».

Я.Кошчыц, між іншым, – адзін з кіраўнікоў «*Газонефтехимической компании*», а ёй належыць другі па памеры пасля «Газпраму» пакет акцыяў «*СИБУРу*». Я.Кошчыца абвінавачваюць у тым, што ён разам з патронам правёў махінацыі, у выніку якіх доля «Газпраму» ў нафтахімічнай кампаніі зменшылася з 51% да 32%.

Цікава, што калі суд разглядаў апеляцыю адвакатаў Я.Кошчыца і Я.Галдоўскага (тыя пратэставалі супраць утрымання іхніх кліентаў пад вартай), то не прыняў да ўвагі «змякчаючыя віну акалічнасці»: у прэзідэнта «*СИБУРу*» на ўтрыманні – чацвёра непаўналетніх дзяцей, а ў ягонага намесніка... больш чым 12-гадовы стаж працы ў органах пракуратуры Беларусі. Апроч таго, абодва маюць маскоўскую прапіску і цярпяць ад розных захворванняў.

Трэба разумець, стаж працы былога пракурора – гэта нешта сярэдняе паміж цяжкай хваробай і неабходнасцю карміць галодныя раты. Але застаецца пытанне: як гэта Яўген Кошчыц так добра напракураваў у Беларусі, што потым хапіла грошай ачоліць нафтахімічны бізнес у Расіі? Ці Пракуратура Беларусі мяркуе, што такі «кар'ерны рост» яе супрацоўнікаў – у парадку рэчаў?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Прэзідэнцкая кампанія скончылася не для ўсіх

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*




Вынікі незалежнага назірання на прэзідэнцкіх выбарах выкладзены ў кнізе «Выбары прэзідэнта РБ - 2001. Факты і каментарыі», выдадзенай накладам тысячу экземпляраў сёлета ў выдавецтве «Тэсей». Гэта больш як 200-старонкавае выданне, падрыхтаванае калектывам аўтараў пад агульнай рэдакцыяй кіраўніка экспертнай групы па заканадаўстве Кансультацыйнай рады апазіцыйных палітычных партыяў Міхаілам Пліскам. У зборніку даецца параўнальны аналіз заканадаўства па прэзідэнцкіх выбарах у 1994 і 2001 гадах; аналізуецца сітуацыя ў краіне напярэдадні і ў часе выбараў, прыводзяцца выніковыя заключэнні БДІПЧ АБСЕ і Асацыяцыі арганізатараў выбараў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Завяршаюць зборнік нарматыўна-прававыя акты наконт выбараў.

Гэта адзінае такога кшталту выданне ў Беларусі. Бліжэйшым тыднем грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» плануе выдаць і прэзентаваць хроніку парушэнняў заканадаўства ў часе прэзідэнцкіх выбараў - 2001.

Найпершая задача «Незалежнага назірання» ў перспектыве – захаваць сетку ўнутранага назірання, каб у 25 найбуйнейшых гарадах краіны сачыць за правядзеннем выбараў у мясцовыя Саветы. «Мы назіралі, мы будзем назіраць да гэтых пор, пакуль выбары не будуць праводзіцца празрыста, у адпаведнасці з дэмакратычнымі міжнароднымі стандартамі», – заявіў Алесь Бяляцкі.

**Рыгор БУЯН**

**СУДЫ**

# Пераслед адваката

Супраць адваката маці Дзмітрыя Завадскага Ігара Аксёнчыка ўзбуджаная крымінальная справа.

Па выніках праверкі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь узбуджана крымінальная справа па факце паклёпу, што ўтрымліваўся ў публічным выступе адваката Ігара Аксёнчыка. Расследаванне ў дачыненні да І.Аксёнчыка праводзіць адна з раённых пракуратур Мінску. Сам адвакат зараз хаваецца.

І.Аксёнчык з'яўляецца прадстаўніком маці зніклага без вестак аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага на судовым працэсе па справе групы былога афіцэра спецпадраздзялення МУС Беларусі «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча, які, у прыватнасці, абвінавачваецца ў выкраданні Дз.Завадскага. 13 лютага І.Аксёнчык зрабіў рэзкую заяву журналістам каля ўваходу ў будынак суду. Ён заявіў, што перад судом не прадсталі галоўныя фігуранты па гэтай справе, сярод якіх – высокапастаўленыя беларускія чыноўнікі. Менавіта яны, паводле слоў адваката, былі арганізатарамі выкраданняў Завадскага, а таксама вядомых беларускіх палітыкаў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі, апанентаў улады.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

**КРЫМІНАЛ**

# Арышты на «Беларуськаліі»

Пракуратура Рэспублікі Беларусь санкцыянавала заключэнне пад варту грамадзяніна К. – былога намесніка дырэктара фірмы маркетынгу рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Вытворчае аб'яднанне «Беларуськалій».

Як паведамілі БелаПАНу ў прэс-цэнтры рэспубліканскай Пракуратуры, ён абвінавачваецца ў тым, што, злоўжываючы сваімі службовымі паўнамоцтвамі і лабіруючы інтарэсы літоўскай фірмы «Арві», закупіў па завышаным цане 280 тон алею, чым нанёс аб'яднанню шкоду на суму 232 тысячы даляраў ЗША. Вядзецца следства.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

**СВОЙ ГОЛАС**

***– Ці атрымоўвалі вы калі-небудзь той падарунак на 8-га сакавіка, пра які марылі? Якія рысы ў характары беларускіх мужчын вам падабаюцца найбольш? Ці могуць беларускія мужчыны круглы год быць такімі, якімі бываюць 8-га сакавіка?***



**Каця, эканаміст:**
– Так, я атрымоўвала кветкі. Калі меркаваць па маім каханым, то нашы мужчыны здольныя быць файнымі круглы год.

**Вера, эканаміст:**
– Я ўвогуле не атрымоўваю падарункаў 8-га сакавіка. Так ужо склалася па жыцці. Галоўная рыса, якую б я жадала бачыць, гэта тое, каб яны вялі сябе, як мужчыны. А ўвогуле нашы мужчыны круглы год значна лепшыя, чым на восьмага сакавіка, тады яны больш натуральныя.



**Людміла, журналіст:**
– Я заўсёды атрымоўваю толькі тое, што пажадаю. У мужчынах мне падабаецца розум, інтэлект. Галоўнае, каб былі мазгі. У іх не атрымоўваецца быць такімі, як восьмага, увесь год, але ж яны да гэтага імкнуцца.

**Вольга, студэнтка:**
– Не, не атрымоўвала. Не ведаю, што мне ў мужчынах падабаецца, ідэалаў нейкіх у мяне няма. Магчыма, нашы мужчыны на ўсё здольныя, калі пажадаюць, але я з такімі пакуль што не сутыкалася.



**Жанна, сакратарка:**
– Канечне, атрымоўвала. Мне ў мужчынах падабаецца дабрыня і надзейнасць. Чыста фізічна мужчыны нашы запраграмаваныя на тое, каб быць кожны дзень ветлівымі і г.д., але ў нашай краіне, відаць, гэта занадта складана, шмат розных праблемаў.

**Наташа, псіхолаг:**
– Атрымоўвала, але што гэта было – я не скажу. Галоўнае – мужчыны павінны быць адказнымі за свае ўчынкі, смелымі, справядлівымі. Здольныя нашы мужчыны на ўсё, калі іх так выхаваюць жанчыны.



**Аня, перакладчыца:**
– Так, атрымоўвала. Я думаю, любой дзяўчыне прыемна будзе атрымаць кветкі. Я люблю атрымоўваць на восьмага сакавіка букет ружаў. Мне падабаецца ў мужчынах рамантызм, каб хлопец прыгожа ставіўся да сваёй дзяўчыны. Але, мне здаецца, што нашы мужчыны на гэта не здольныя.

**Ірына, юрыст:**
– Я сама ўвесь час выпрошваю сабе на восьмага сакавіка мімозы, і таму паспяхова іх атрымоўваю. А вялікіх падарункаў пакуль што не атрымлівала. У беларускіх мужчынах мне падабаецца памяркоўнасць. Але быць добрымі круглы год – на гэта іх, на жаль, не хапае.



**Юля, студэнтка:**
– Не, ніколі не атрымлівала. У мужчынах мне падабаюцца пяшчота і прыгажосць. Некаторыя здольныя быць увесь год такімі, як восьмага сакавіка. Але толькі некаторыя.



**Надзея, студэнтка вышэйшай школы турызму:**
– Напэўна, усе падарункі, якія я атрымоўвала, я сапраўды жадала атрымаць. Мне ў мужчынах імпануе шчырасць. А быць круглы год добрым – тэарэтычна нават немагчыма, усе ж стамляюцца.



**Любоў, інжынер:**
– Галоўнае – гэта не якасць падарунка, а знак увагі. Дабрыню ў мужчынах я стаўлю на першае месца. А быць круглы год такімі ж, як восьмага – гэта нашым мужчынам не па кішэні абсалютна.

**Наталля, бібліятэкар:**
– У прынцыпе атрымліваю, бо муж ведае, чаго я жадаю. Але часам бываюць і нечаканасці. У першую чаргу ў беларускіх мужчынах мне падабаецца іхняя дабрыня і непатрабавальнасць, нясквапнасць, адкрытая душа. Нашы мужчыны, калі судзіць па маім мужу, – здольныя быць круглы год добрымі. Хоць і кажуць, што мужчынскі род выводзіцца, я ў гэтым пытанні аптыміст. Вельмі шмат існуе дастойных мужчын.



**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

## Два гады на аднаўленне ратушы

Неўзабаве, можа нават у сакавіку, у скверы на плошчы Свабоды ў Мінску, з якога некалькі месяцаў таму перасялілі мастакоў гандляваць на Кастрычніцкую плошчу і які ўжо адмыслова абгарадзілі для вядзення будаўнічых работ, нарэшце пачнецца аднаўленне ратушы, што стаяла калісьці на гэтым месцы – колішнім Высокім рынку. Пра гэта нам паведамілі ў ААТ «Стары Менск», што займаецца яе адбудовай. Пачацца рэстаўрацыя сталічнай ратушы павінна была яшчэ ўлетку мінулага году. Таму ў «Старым Менску» пра яе сакавіцкі старт кажуць асцярожна, з агаворкай: калі ўсё добра будзе з фінансаваннем. На аднаўленне ратушы спатрэбіцца прыкладна мільён даляраў і два гады будаўнічых работ. Такім чынам, калі ўсё будзе як след, мінская ратуша паўстане на плошчы Свабоды ўвесну 2004 году.

Ратуша ў Мінску з'явілася пасля атрымання горадам права на самакіраванне (так званага магдэбургскага). Будынак мінскай ратушы прастаяў да 1857 году, калі на асабісты загад рускага цара Мікалая I, аддадзены яшчэ ў 1851 годзе, быў разбураны. Фармальная прычына: «займаючы сабой частку галоўнай плошчы, ратуша зацясняе яе і засціць аблічча саборнай царквы».

У аднаўленай па архіўных малюнках і чарцяжах двухпавярховай ратушы з чырвонай цэглы мяркуецца размясціць музей гісторыі Мінску і мэрыю.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

## Чалавек, які мучыў вожыка, сядзе ў турму

Калі раней за здзекі з жывёлаў пагражаў штраф або ўмоўнае пакаранне, дык цяпер за гэта можна сесці ў турму.



33-гадовы Губэрт Зламал з Шумпэрку праседзіць у турме паўгода за тое, што ў парку запінаў і затаптаў вожыка. Гэтую жорсткасць ён здзейсніў на вачах у мясцовых паліцэйскіх у сярэдзіне чэрвеня мінулага году, на світанку. Шумпэрскія паліцэйскія ўбачылі ў Іраскавым садзе чалавека, які падкідаў свайму сабаку нейкую рэч, а пасля таптаўся па ёй. Падышоўшы бліжэй, яны ўбачылі, што гэта быў вожык. Але дапамагчы яму не паспелі, жывёліна ўжо была нежывая. «Гэты выпадак мы перадалі на разгляд у паліцыю», – кажа камандзір аддзялення Здэнек Дочэкал.

Пасля следства ўвосень мінулага году суд вынес вырак – паўгода пазбаўлення волі. «Выпадкі здзекаў з жывёл не так часта трапляюць на судовы разгляд, і ў большыні выпадкаў суд дае ўмоўныя тэрміны або штрафы. Не ўмоўны вырак накуль першы ў нашай акрузе», – тлумачыць прэсавы сакратар Акругова суду ў Шумпэрку Любамір Козак.

У канцы снежня вырак уступіў у сілу, але асуджаны ў турму не трапіў. «Ён папрасіў адтэрміноўкі пакарання з прычыны пагаршэння здароўя. Зараз мы гэта правяраем, а суд вырашыць, задаволіць ці не ягоную просьбу», – працягвае Козак. На вырак паўплывала і тое, што Зламал у той час, калі забіў вожыка, меў яшчэ справу за маёмаснае злачынства.

На судзе Зламал апраўдваўся тым, што спрабаваў пазбавіць вожыка доўгіх пакутаў, бо ягоны сабака пакусаў і параніў небараку. «Звярок пішчэў ад болю, а я не хацеў, каб ён пакутаваў, таму і дабіў», – казаў ён. Камандзір мясцовых паліцэйскіх Дочэкал лічыць гэтыя словы бессэнсоўнымі, бо сабака не можа пакусаць калючага вожыка. Адразу пасля злачынства, у паліцыі, Зламал казаў, што проста «ляснуўся аб зямлю» разам з вожыкам, і катэгарычна адмаўляў, што таптаў вожыка. Гэтыя словы поўнасцю абверг ветэрынар, які абследаваў мёртвага звярка. У вожыка была адарваная нырка, парваныя вантробы і страўнік.

Абаронцы жывёл і людзі, якія цікавіліся гэтым неардынарным выпадкам, успрынялі вырак як адпаведны.

**MFDNES**

**Пераклад: Ілля Глыбоўскі**

# «Зямля людзей», што любяць мастацтва

*У сярэдзіне лютага ў цэнтры Мінску на вуліцы Рэвалюцыйнай, 13 адкрылася новая мастацкая галерэя «Зямля людзей». У яе тры адметнасці: першая – галерэя прыватная, другая – уваход сюды вольны, а трэцяя ў тым, што яе ўладальнік – француз.*

Іў Прудом жыве стала ў Беларусі ўжо 6 гадоў – з тае пары, як прыехаў сюды ў якасці фінансавага дарадцы адной кампаніі распрацоўваць фінансавыя схемы паставак нафтапрадуктаў па маршруце Расія–Беларусь–Еўропа. Цяпер у Мінску ў Іва не толькі бізнес, але і сям'я: у нас ён ажаніўся. А нядаўна яшчэ займеў і справу душы.

Адкрыццё галерэі – не першае спрыянне беларускай культуры з боку француза. Напрыклад, досыць даўно і да гэтай пары ён мецэнат джазавага гурта «Яблычная гарбата», асобных класічных музыкаў. Іў Прудом кажа, што такая прыхільнасць да мастацтва не выпадковая. Продкі ягоныя – спрэс культурнікі: дзесятак пакаленняў па лініі бацькі – парыжскія архітэктары, па матулінай – многія займаліся якраз галерэямі, усе ў сям'і – музыкі.

Пра тое, нашто яму галерэя, Іў Прудом кажа:

– У Беларусі шмат таленавітых мастакоў і скульптараў міжнароднага, як кажуць, узроўню. Я стварыў гэтую галерэю ў першую чаргу дзеля ўласнага задавальнення, а па-другое, каб паказаць, што гэтыя творцы ёсць, у тым ліку за мяжой. І з дапамогай сайту галерэі, і праз шматлікія сувязі ў культурніцкіх колах Францыі.

Пра любоў Прудома да беларускага мастацтва сведчыць і той факт, што ў Францыі ў ягонай уласнай калекцыі ёсць творы беларускіх мастакоў. А тая калекцыя нешматлікая, бо карціны, ён лічыць, мусяць быць не абы-якія і паказваца, а не ляжаць дзе на складзе: маўляў, што з таго, што ў цябе тысяча палотнаў, калі яны ляжаць сабе лежма і іх ніхто не бачыць.

Іў Прудом ганарыцца, што ў ягонай галерэі файнае святло, бо святло, на ягоную думку, адно з самых слабых месцаў мінскіх галерэй, хоць яны і моцныя сваім зместам. Уладальнік «Зямлі людзей» хоча, каб у яе была рэпутацыя галерэі, дзе заўжды выстаўляюцца мастакі высокага ўзроўню. Ён не прымае таго, што, напрыклад, у галерэі «Мастацтва», размешчанай на праспекце Скарыны, разам з выстаўленымі выдатнымі карцінамі гандлююць значкамі і свечкамі, хоць і разумее, што гэта неабходна, каб выжыць. Але гэта зусім не значыць, што ў «Зямлі людзей» будуць прадстаўленыя творы толькі ўжо вядомых мастакоў. Гэтак улетку тут будзе наладжаная выстава трох маладых нашых мастакоў, што яшчэ вучацца на чацвёртым курсе Беларускай акадэміі мастацтваў. На густ Іва Прудома, гэта мастакі добрага ўзроўню, таму ён і збіраецца адкрыць іх – спачатку прынамсі беларусам.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Зараз у галерэі «Зямля людзей» экспануецца выстава мастака, прафесара кафедры графікі Акадэміі мастацтваў Уладзіміра Савіча «Род». Карціны ягоныя знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у Нацыянальным мастацкім музеі Літвы, у Траццякоўскай галерэі, у фінскай і славацкай галерэях, а таксама ў прыватных зборах. Кожная кампазіцыя на выставе «Род» складаецца з аднаго старога фотаздымка, на якім нехта з родных мастака, і карціны, гэтаму чалавеку прысвечанай. Працягнецца выстава У.Савіча да 14 сакавіка. А ўжо праз дзень свае творы на Рэвалюцыйнай, 13 выставіць мастак Віталь Герасімаў. Ягоная выстава будзе мець назву «Калейдаскоп страчаных ілюзіяў»

**Кірыла ПАЗЬНЯК**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Уладальнік галерэі Іў Прудом

# Трыумф джынсы

Не надта сентыментальны па натуры, днямі я ледзь не расплакаўся ад замілавання над кавалкам сіняй, вылінялай і даволі бруднай тканіны. Але гэта хто збоку вырашыў бы, што я плачу над анучаю. Насамрэч настальгічную слязу выціснулі з мяне рэшткі маіх любімых джынсаў, якія я выпадкова, сярод розных трантаў, раскапаў на антрэсолях. О! З гэтымі джынсамі ў мяне столькі звязана, што варта пад шкло ды ў музей. Яны з'явіліся ў мяне ў канцы сямідзесятых гадоў і былі купленыя, калі мне не здраджвае памяць, акурат за 175 рублёў (маладому пакаленню нагадаю, што някепскай зарплатай у тыя гады лічылася недзе рублёў 150). Бацькі доўга адкладалі грошы, каб паднесці мне такі падарунак. Агулам кажучы, я не быў надта капрызным дзіцем і да таго дня задавальняўся не фірменнымі штанамі, а «самапалам». Пра сапраўдныя амерыканскія джынсы я марыў, як той казаў, дзень і ноч. Зрэшты, падобнымі марамі былі апанатыя не толькі мае раўналеткі, але і многія зусім дарослыя людзі. І вось нарэшце мара ідыёта збылася – я ўціснуўся ў цупкія, нягнуткія, з кучай заклёпак і фірменных лэйблаў джынсы фірмы *Lee*. Гэта было шчасце!

Між іншым, пасля таго як я надзеў джынсы, рэзка змяніўся мой сацыяльны статус – хлопцы мяне запаважалі, а дзяўчаты пачалі выказваць да мае асобы, адзетае ў каўбойскія штаны, пэўную цікавасць, чаго раней не назіралася. Праўда, амерыканскія порткі прынеслі мне і некалькі непрыемных момантаў: два разы мяне моцна збілі хуліганы, спрабуючы вытрасці з джынсаў іх гаспадара. Але я біўся за сваю ўласнасць, як гладыятар.

Потым у мяне было яшчэ багата розных джынсаў, але тыя, першыя, я запомніў на ўсё жыццё. Можа здацца дзікім, але ў савецкі час джынсы, поруч са жвачкай і кока-колай, прыроўніваліся да прадметаў ідэалагічнай дыверсіі, з дапамогай якіх праклятыя капіталісты меліся расхістаць падвaліны сацыялістычнага грамадства. Кажуць, дарэчы, што ў КГБ існаваў спецыяльны аддзел, які прыдумляў і распаўсюджваў самыя недарэчныя і фантастычныя чуткі. Праўда гэта ці не, я не ведаю. Але пра джынсы гуляла такая чутка: адна жанчына купіла за вялікія грошы джынсы, і з таго часу ў яе пачало горшаць здароўе. Няшчасная ледзь не аддала Богу душу. Сталі разбірацца, і аказалася, што прычынай яе жахлівага самаадчування былі джынсы, прапітаныя (пэўна, у лабараторыях ЦРУ) невядомай атрутаю. Мараль – не купляйце джынсаў, амерыканцы іх спецыяльна ў нашу краіну засылаюць, каб на корані вынішчыць савецкіх людзей. Якую пагрозу бачылі ў звычайных штанах савецкія партыйныя ідэолагі? Гэта засталося для мяне загадкаю. Зрэшты, пазней джынсы пачалі шыць і ў нас. Праўда, з сапраўднымі яны мелі вельмі і вельмі далёкае падабенства. І называлі іх «рабочай вопраткай».

Праўда, называючы іх так, нашыя вытворцы цалкам мелі рацыю. Бо ад пачатку джынсы былі штанамі для гарнякоў (пазней для золаташукальнікаў) і называліся камбінезон. Вынайшлі іх, як ні дзіўна, не амерыканцы, а яўрэі. Дакладней, яўрэй па імені Леві і прозвішчы Страўс. Адбылося гэта ў 1853 годзе, калі 24-гадовы Леві, эмігрант з Баварыі, адкрыў у Сан-Францыска майстэрню па шыцці моцных штаноў на патрэбы рабочага люду. Шыліся гэтыя штаны з карычневай тканіны, прызначанай для палатак і тэнтаў. Тканіна для іх пастаўлялася з італьянскага порту Генуі, і на цюках ставілі штамп месца адпраўкі – *Genes*. Амерыканцы ж замежнае слова прачыталі на свой манер – «Джынс». Але сваю цяперашнюю назву джынсы атрымалі толькі ў мінулым стагоддзі, у трыццатыя гады, а дагэтуль іх называлі «камбінезон без верху». Калі ў Страўса скончыліся запасы брызенту, ён закупіў шчыльную сінюю саржу ў Німе (Францыя). Тканіна так і называлася «сарж-дэ-нім» (саржа з Німу). Потым слова «сарж» скарацілі, засталося толькі «дэнім». Самі штаны пачалі зваць «дэнімы».

Пакупнікі штаноў ад Леві Страўса, сярод якіх было шмат золаташукальнікаў, сутыкнуліся з праблемаю: пад цяжарам самародкаў кішэні рваліся. Тады кампаньён Леві Страўса, Якаб Дэвіс, прыдумаў умацоўваць іх заклёпкамі для конскае збруі. Неўзабаве Дэвіс прапанаваў выкарыстоўваць заклёпкі на ўсіх джынсах, якія яны выраблялі. Так у 1873 годзе на свет з'явіліся Арыгінальныя Праклёпаныя Джынсы Ліваіс. Гэтыя стыльныя і моцныя порткі здабылі вялікую папулярнасць у лесарубаў, фермераў і каўбояў. Між іншым, заклёпкі напачатку ставіліся практычна паўсюль, у тым ліку і на шырыньцы. Аднойчы гэта стала прычынай трагедыі: адзін з каўбояў, седзячы пры вогнішчы, апёк прычыннае месца распаленай заклёпкай. Але прыбралі заклёпкі з гульфіка толькі ў 1941 годзе. Дарэчы, падчас Другой сусветнай вайны джынсы ў ЗША прадаваліся толькі тым, хто ўдзельнічаў у баявых дзеяннях.

Са з'яўленнем новых тэхналогіяў джынсы пачалі шліфаваць, мачыць у кіслаце, адбельваць і нават расстрэльваць шротам, каб атрымаліся адмысловыя дзірачкі...

Дзвюх аднолькавых пар джынсаў не бывае. Праверана: пяць пар джынсаў адной мадэлі, колеру і памеру на адным і тым жа чалавеку сядзяць кожная зусім па-свойму. Сапраўдныя джынсы крыху расцягваюцца пры носцы, але «садзяцца» пасля сціркі яны не павінны (бо вытворцы з дапамогай адмысловай тэхналогіі прадухіляюць гэты эфект).

**Вадзім САМАКАТАЎ**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1130 Нумар падпісаны ў друк 5/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760